Год II. Пятніца 31 сакавіка 1922 г. № 5.

# РОДНАЯ СТРАХА

АДРЕС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вул. Міцкевіча (Георгіеускі пр.) 33, кв. 4. Рэдакцыя адчынена штодня, апрача сьвят ад 10 да 12 гадз.

Цана нумару 20 марак.
Падпіска на 1 месяц 80 м., на 3 месяцы 240 мар.

ЦАНА АБВЕСТАК: За 1 радок 1 стр.—30 мар. На апошняй—15. Для шукаючых працы на 25 прац. таней

## ЭКЗАМЕН.

Беларускае сялянства за часы самадзяржаўнай маскоўскай няволі было зусім спынена ад палітычнага грамадзянскага жыцьця. Селянін быў падданым „цара-бацюшкі“, ад імя каторага паліцейскі ўраднік і земскі начальнік кіравалі жыцьцём „мужыка“—беларуса.

Вось цяпер, калі з нявольніка беларусселянін у межах Польскай Дзяржавы зрабіўся грамадзянінам, ён зусім ня ведае аб тых правох і абавязкам, якія накідае на яго становішча вольнага чалавека, пакліканага да кіраваньня сваей доляй.

Трэба праўду сказаць, што Польскія ўлады мала дбаюць аб тым, каб беларускі народ даведаўся аб сваіх правох, напісаных у канстытуцыі Рэчыпаспалітай Польскай. Няведаючы гэтых правоў і дагэтуль, селянін беларускі дрыжыць ад громкага вокліча паліцыянта, каторы, ня гледзячы на канстытуцыю, суліць, як за „добрых“ мікалаеўскіх часаў, згнаіць яго ў турме; і дагэтуль, як кару Боскую, пакорна пераносіць зьдзек малога і вялікага провынцыяльнага начальства, і на пратэсты чалавека, які ў імя асноўных законаў дзяржавы даходзіць сваіх правоў, глядзяць як на нешта нябывалае.

Я бачыў селяніна, які расказываў мне аб прыездзе да іх вёскі пасла Варшаўскага Сойму.

— Паночку, што ён гаварыў!—расказываў мне селянін.—Гэтак лаяў тутэйшых чыноўнікаў і паліцыю, што ў нас і ў думках ніколі не паўстала, што можна так навет думаць аб начальстве. Аж ня сьцярпеў гэткай лаянкі пан рэвіровы і сунуўся, каб запратэставаць. Мы так усе і абамлелі: вось, думаем, прапаў чалавек. А пан пасол, як заравэ на яго: „Па якому праву перашкажаеш ягомасьць выпаўняць мне мае пасольскія абавязкі, мусіць, кажа, закону ня ведаеш?..“ Той нешта яшчэ хацеў гаварыць; а пан пасол давай крычаць на яго! Крычаў, крычаў, а пасьля пытае: „Як фамілія!? Хто тут з вас старшы начальнік?“ Той бачыць, што ня жарты, што запраўды могуць выкінуць са службы, спужаўся, назваў сваеё прозвішча і, спакарнеўшы, давай прасіць, каб выбачыў яму.

Абразок гэты вельмі добра характэрызуе тое, што ў нас робіцца на вёсках.

І вось надыходзіць крытычны час выбараў у Варшаўскі Сойм: цёмная вёска наша павінна будзе выбраць сваіх прадстаўнікоў, якія ў Сойме будуць бараніць справы нашага селяніна беларуса.

Страшна падумаць, у якіх варунках будуць вясьціся гэныя выбары.

А тым часам, для справы беларускага адраджэньня выбары гэныя будуць мець вялізарнае значэньне.

Яны будуць экзаменам палітычнай дасьпеласьці беларускага народу, яны пакажуць, ці народ беларускі ёсьць толькі фікцыя, з якою можна ня лічыцца, і істнуе толькі, як нешта перэальнае і няздольнае да праяваў свайго „я“ у фантазыі дасужых палітыкаў; ці гэта запраўды рэальная сіла, якая ня толькі можа, як дзіця малое, жаліцца на свой уціск і паняверку, але, як сталы чалавек, стаць да змаганьня за свае нацыянальныя і эканамічныя правы.

Беларускае грамадзянства павінна зразумець, якое вялізарнае значэньне будуць мець недалёкія ўжо выбары ў Варшаўскі Сойм.

Яно павінна напружыць усе свае сілы, выкарыстаць усе свае ўплывы, каб голас прадстаўнікоў беларускага народу моцна зьвінеў у Варшаўскім Сойме і зліўшыся з

голасам прадстаўнікоў польскай дэмакратыі, вызваліў беларускі народ з пад панаваньня чорных сілаў рэакцыі і адчыніў прад ім сьветлы шлях вольнага нацыянальнага будаўніцтва.

С. Р.

# Finis Тымчасовй Віленшчыны.

Урэшці справа Віленшчыны засталася ў Варшаве вырашанай: акт злучэньня падпісалі і апошнія паслы. Са дня апублікаваньня ў урадовым штодзенніку пастановы ў гэтай справе Варшаўскага Сойму — „тымчасовасьць“ віленскіх уладаў кончыцца; Віленшчына пераходзіць пад поўны загад Польшчы.

Кончыцца ня толькі „тымчасовасьць“, але трэба думаць, што напэўна страціў свае паўнамоцтвы і Віленскі Сойм, выпаўніўшы свае абавязкі. Тыя паслы, якія былі ў ліку 20-ці чалавек дэлегаваны ў Варшаву,—для даручэньня польскаму ўраду пастановы Віленскага Сойму аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы,—як прадстаўнікі Віленскай зямлі ўвайшлі ў склад паслоў Варшаўскага Сойму. Знача, Віленскага Сойму, як асобнага, таксама больш няма; ёсьць толькі адзін Сойм—гэта Варшаўскі, і ў рожных справах нашага краю трэба цяпер толькі туды зьвяртацца.

Такім чынам усялякая няпэўнасьць, што да будучыны Віленшчыны, скончылася; Віленшчына зьяўляецца часткай Польшчы. Гэтага дамагалася большая частка гутэйшага насяленьня і паводлуг яе волі сталася. Няпэўнасьць і вечныя пастрахі новымі пераменамі — ўсім агорклі. Няхай будзе што-небудзь адно, але ўжо сталае; ад гэтых перамен тут у нас усе ўдоваль нацярпеліся. Годзі!

Так! Паміж Польшчай а Віленшчынай — справа апошняй зусім урэгулявана. Але вось яшчэ адно пытаньне, якое як-ні-як, а ўсё-ж ткі папавінна ўсіх зацікавіць: ці аканчацельнае вырашэньне гэтага пытаньня скончыцца толькі на тым, што сказалі сабе Віленшчына ды Польшча? Ці рынак міжнароднай палітыкі з гэтым ужо згодзіцца і зусім успакоіцца? Ці не пачнуцца яшчэ ізноў якія-колечы новыя ў гэту справу ўсталяцца спіцы прадстаўнікамі Лігі Народаў, або іншымі там няпрыхільнымі для Польшчы дзяржавамі? І як да такой пастановы аднясецца Літва? Хіба што з такім становішчам Віленшчыны яна ніколі ня згодзіцца?

Ковенская Літва па гэтаму пытаньню цяпер быццам зусім маўчыць—але ці надоўга? Усё, што толькі не рабілася для мірнага урэгуляваньня гэтай справы паміж Польшчай і Літвою — ніяк не магло здаволіць апошнюю. Палякаў і ўлады польскай над Віленшчынай у той ці іншай меры Літва не прызнавала, — дамагалася поўнай перадачы Віленшчыны ёй—Літве. Такая апорнасьць, як бачым, ня вышла Літве на карысьць, бо ў канцы канцоў гэта справа агоркла і Лізе Народаў, якая перадала яе на вырашэньне самога народу. Ну, выбралі Сойм і вырашылі...

Мерку горачы дапоўнілі Літве яшчэ і тыя літоўцы, якія прыехалі, як дэлегаты з прыгранічнага пояса ад сваей народнасьці да Віленскага Сойму і зложылі адрэс з 480 подпісямі аб прызнаньні імі гэтага Сойму, з пажаданьнямі як найлепшых у будучыне адносінаў між польскім і літоўскім народамі.

Літва маўчыць і відавочна, што яна яшчэ на нешта спадзяецца.

Ня так даўно Ковенская Літва, абходзячы Віленскі Сойм, зьвярталася ўсё з нотамі да Польскага ўраду—ў Варшаву і хацела з тым урадам абгаварыць справу Віленшчыны. Тагды Варшаўскі Сойм ня меў прадстаўнікоў Віленшчыны і польскі ўрад абгаварваць гэтай справы ня мог. Цяпер калі ўвайшлі туды прадстаўнікі Віленскага Сойму, дык думаецца, што было-б зусім на часе паразумецца ў гэтай справе і з Літвою. Няхай была-бы згода.

А мо Гэнуя будзе змушана яшчэ і гэту справу разважаць і літвіноў з палякамі гадзіць?

Усё-ж ткі Сярэднялітвякі як там у Варшаве не цяцерыліся, а аднолькава, ў канцы канцоў, з палякамі паразумеліся і дагаварыліся. Чаму-ж не паразумецца яшчэ да гэтага і ковенскім літоўцам? Першыя — „выторгавалі для Віленшчыны асобны статут“, а мо другія-б—ковенскія—вырвалі-б для гэтага краю як найшырэйшую аўтаномію, з поўнай незалежнасьцяй для народных тут меншасьцяў... Памаленьку Кракаў збудаваўся-б і была-бы згода. Тагды Віленшчына сталася-б ня толькі польскай, але крыху і літоўскай.

Маршалак Варшаўскага Сойму п. Тромпчынскі, у адказе маршалку Віленскага Сойму п. Локуціеўскаму, між іншым, сказаў: „Можаце быць пэўнымі, што ніколі ўлады ўстаноўчыя Рэчыпаспалітай не накінуць вам формаў жыцьця, нязгодных з воляй зямелькі вашай, або з яе інтарэсамі. Ніколі ня будуць сіліцца на тое, каб гвалціць правы іншых народнасьцяў да жыцьця, якія засяляюць Віленскую зямлю, бо такі паступак пярэчыў-бы вялікай прошласьці Польскага Народу“.

Вось гэтыя вялікія словы, каб нарэшці спраўдзіліся у адносінах да нас—беларусоў, дык нам больш нічога і ня трэба было-б пажадаць. Прызнаньне правоў, як зупраўды раўнапраўнаму—з грамадзянамі польскай нацыі—чалавеку і свабоднае культурнае развіцьцё ў духу сваей нацыянальнасьці,без сучасных чыноўніцкіх гныбленьняў і перашкод—вось нашы дамаганьні. Гэтага аднаго праз увесь час мы толькі для сябе дамагаемся, аб гэтым толькі просім і дагэтуль ніякіх у гэтым напрамку відавочных аблягчэньняў дачакацца ня можам. Усё што-небудзь ды хто-небудзь—але перашкаджае. Аднаму не падабаецца беларус, а другому — толькі беларуская школа, і абодва гныбяць адно і тое самае.

Трудна; што Бог стварыў, таго чалавеку не ператварыць; кожны мусіць жыць адзінакавым жыцьцём.

Спадзяемося аднолькава, што да сьветлай яснай зары нам, беларусом, засталося ўжо зусім недалёка, бо сучаснае палажэньне некатарых зьявішчаў смутна пярэчыць вялікай традыцыі спрадвеку шляхотнага Польскага Народу.

В. Зб.

# Беларуская школа і беларускія вучыцялі.

Чытаючы беларускія газэты розных кірункаў, мы ў кожным нумары знойдзем адну, а то дзьве і болей карэспандэнцый з вёсак нашай мнагапакутнай бацькаўшчыны, ў якой аўтары гэных карэспандэнцый жаляцца на зачыненьне ў розных мяйсцох беларускіх школак польскімі ўладамі і аб недазваленьні адчыняць новыя школы.

Беларуская школа—самае балючае мейсца кожнага беларуса. І дзеля гэтага як беларуская прэса, так і прадстаўнікі розных беларускіх арганізацый гэтак моцна рэагуюць на кожную праяву нашых улад, калі яны скіраваны проціў тэй ці іншай беларускай школы.

Гэнае рэагаваньне беларусаў на кожную крыўду, якая дзеецца іх школе, ёсьць нічым іншым, як самазахаваўчым інстынктам не ўзмацаваўшагася яшчэ, як мае быць, нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Гэта крык маткі, абараняючай сваіх дзяцей.

Барацьба беларуса за школу — гэта барацьба за самое яго нацыянальнае існаваньне.

І трэба толькі дзівіцца прадстаўнікам нашае ўлады, найбольш здаецца зацікаўленай у тым, каб спыніць усё, што ляжыць па дарозе да поўнага зближэньня двух братніх народаў, калі яны сваімі няпрыхільнымі альбо проста бязтактнымі адносінамі да тэй ці іншай беларускай школы, даюць моцнае агітацыйнае аружжа ў рукі ворагаў гэнага зближэньня, паглядаючых мілым вокам на будучую Расею, ворагаў, якія існуюць, як паміж беларусамі, так і паміж палякамі.

Ня наша справа крытыкаваць паступкі прадстаўнікоў польскай улады. За гэта яны нясуць адказнасьць прад польскім народам.

Мы бы толькі хацелі зьвярнуць увагу беларускага грамадзянства на тое, што ў дрэнной пастаноўцы беларускай школьнай справы вінаваты ня толькі польскія ўлады, але вялікая часьціна віны ляжыць і на нас самых.

Чаго мы хочам ад Польскай Улады? Урадовай беларускай школы.

І яна пасьля доўгіх таргоў, упіраючыся, але дае гэтую школу. Зносіцца з беларускім грамадзянствам, назначае з іх ракамандацыі беларускіх вучыцялёў і, праўда неахвотна і мала, але школкі беларускія адчыняе. Праходзіць некалькі часу. Разам-гвалт: „палякі зачыняюць беларускія школы!"

Адчынілі,—а цяпер зачыняюць? У чым справа?

І дазнаешся чалавек:

У аднэй „беларускай" школе істінна-русскій „беларускі" вучыцель, ракамандованы беларускай грам. арганіз., на найпекнейшай велікарасейскай мове вучыць дзетак радаслоўнай „дома Раманавых". У другой школе „беларускі" настаўнік палітыкай не займаецца, але вучыць парасейску, „бо што гэта за мова беларуская", тлумачыць ён людзям. А ў трэцяй, дык проста нічога ня вучыць, бо сам ні чытаць ні пісаць ня ўмее.

За зачыненьне гэткіх школаў кожны беларус толькі павінен сказаць дзякуй польскім уладам.

Але прычыны зачыненьня школаў бываюць і іншыя, якія з пагляду палякаў, зноў мусім прызнаць зразумелымі. Для нас сусім зразумела, калі палякі ставяць варункам існаваньня беларускай школы, выкладаньне ў школе польскай мовы, як прадмету. Гэта ня толькі зразумела, але, мусім прызнаць,—і рацыянальна. Бо трэба-ж, каб дзіцё, выйшаўшы са школы, пазнала дзяржаўную мову. І вось туткі бяда: трудна знайсьці настаўніка, які ведаў-бы і беларускую і польскую мову адначасна.

Зразумелым для нас зьяўляецца прычына зачыненьня беларускай школы, калі настаўнікам у школу нападае ягомасьць арыентацыі знамянітага пана В. Ластоўскага, які навучае ня дзетак ужо, а сялян, што палякі ворагі беларускага народу і трэба трымацца з літьвінамі і бальшавікамі, каб скінуць іх польскае панаваньне.

Гэткія прыклады беларускіх школаў былі за часаў гэнэральнага камісара Асмалоўскага і ў Меншчыне, і ў Віленшчыне і радчэй, але бязумоўна, здараюцца і цяпер.

Я не хачу сказаць, што тымі толькі прычынамі кіруюцца польскія ўлады, зачыняючы беларускія школы. Я добра ведаю, што зачыняюць іх, альбо не даюць дазвалу на адчыненьне новых беларускіх школаў—без дай прычыны, проста кірующыся бязьзліваcьцю, каб гэных школак ня было за шмат, маючы надзею, што малады адраджэнчаскі беларускі рух ня патрапіць зваеваць перашкод і замрэ; яны не разумеюць, альбо ня хочуць разумець усей глыбі беларускага нацыянальнага адраджэньня і ня бачаць надзвычайнай нацыянальнай жыцёвасьці беларуса.

Я толькі хачу зьвярнуць увагу нашага беларускага грамадзянства на тое, што ёсьць разумнага і зразумелага ў вымаганьнях польскіх уладаў у адносінах да беларускіх школаў, і на што беларускае грамадзянства павінна згадзіцца, і адначасна сказаць тым „беларускім" вучыцялём, якія дзякуючы малой арганізацыі беларускага грамадзянства, пападаюць іншы раз у беларускую школу, каб у сьцянах яе рабіць сваю даўнейшую русыфікатарскую работу, —што яны ня знойдуць спачуцьця ў беларускага грамдзянства і шкодная іх праца знайдзе патрэбны адпор.

Каб быць беларускім вучыцялем—насамперш трэба быць беларусам. Вучыцялі-беларусы, гэныя запраўдныя ідеолёгі нацыянальна паўстаўшага беларускага народу ўмеюць знайсьці послух і падмогу ў сялян, здабыць пашану школьных польскіх уладаў, іх глыбокая вера ў моц і сьветлую будучыну беларускага народу, ратуе іх і іх школы, якія трываюць і дагэтуль, ня гледзячы на ўсялякія перашкоды і прыпынкі.

К. У.

---

# Палітычныя весткі.

## Справа Віленшчыны.

21-га сакавіка г. г. ўрад унёс на вырашэньне Варшаўскага Сойму прапазыцыю аб тым, каб Сойм зацьвердзіў акт злучэньня Віленшчыны з Полшчай, які, як ведама, падпісалі 2-га сакавіка толькі палова (10) віленскіх дэлегатаў.

22-га сакавіка на конфэрэнцыі „Zespołu Stronnictw Narodowych" з урадам дайшло да

кампрамісу паміж абедзьвімі старанамі і ўрад згадзіўся на ўстаўку ў акт ад 2 га сакавіка дапаўненьня аб згоднасьці з воляй насяленьня статуту Віленшчыны. З гэтай прычыны дэлегаты Zespołu заявілі, што акт падпішуць, а ўрад у сваю чаргу заявіў, што возьме назад сваю прапазыцыю, ўнесяную ў Сойм 21-га сакавіка.

22-га сакавіка а 3 гадзіне па паўдні ў прысутнасьці ўраду дэлегаты Zespołu, якія знаходзіліся ў той час у Варшаве, п. п. Банькоўскі, Бжостоўскі, Альшанскі, Зьвежынскі і Рачкоўскі на ўрадавым акце ад 2 га сакавіка ўпісалі варунак згоднасьці з воляй насяленьня, выражанай у пастановах Віленскага Сойму, і акт падпісалі.

Пасьля гэтага ўрад узяў назад сваю прапазыцыю ад 21-га сакавіка.

24-га сакавіка акт падпісалі апошнія чатыры дэлегаты: Лісоўскі, Клышэйка, Яхевіч і Швабовіч.

Дваццаць дэлегатаў Віленскага Сойму ўвайшлі ў лік паслоў Варшаўскага Сойму ад Віленшчыны.

На паседжаньні 24-га сакавіка Варшаўскі Сойм прыняў да ведама пастанову Віленскага Сойму ад 20 га лютага г. г., зацьвердзіў акт злучэньня Віленшчыны з Польшчаю ад 2-га сакавіка, які падпісаны Польскім Урадам і віленскімі дэлегатамі.

У зьвязку з тым, што дэлегаты Віленскага Сойму ўвайшлі ў склад дэпутатаў Варшаўскага Сойму, Віленскі Сойм абвешчаны распушчаным.

## Аб Гэнуэскай конфэрэнцыі.

Газэта „Matin“ паведамляе, што прадстаўнік ангорскага і константынопольскага ўрадаў у Парыжы вымагаюць дапушчэньня турэцкай дэлегацыі на Гэнуэскую конфэрэнцыю.

Хаўрусныя ўрады пастанавілі запрасіць на конфэрэнцыю ў Гэнуі Раду Лігі Народаў у поўным складзе.

## Камісары Лігі Народаў.

У зьвязку з пытаньнем аб абароне праў меншасьцяў, Ліга Народаў уважае, што трэба выслаць сваіх камісараў на тэрыторыі з моцна мешаным насяленьням. Гэтыя камісары будуць што месяца прысылаць у Лігу Народаў свае данясеньня з пералічэньнем усіх гвалтаў.

## Паўстаньня ў Савецкай Беларусі.

Атрыманы весткі аб паўторным ў гэтым годзе заняцьці Слуцка паўстанцамі. На гэты раз паўстанцы трымаліся ў Слуцку толькі ў працягу двух гадзін. У часе заняцьця гораду паўстанцамі быў пагром. Сярод жыдоўскага насяленьня—тры забітых і два раненых; апроч таго чатырох жыдоў паўстанцы захапілі з сабою.

## Хвароба Леніна.

Ленін цяжха захварэў. Да хворага выкліканы з Бэрліну прафэсар Клемпэрэр—спэцыяліст па ўнутраным хваробам. Паведамляюць, што ў Леніна рак. Старшыня Маскоўскага Саўдэпа сказаў, што стан здароўя Леніна настолькі дрэнны, што нельга разлічваць на яго далейшы ўдзел у дзяржаўных справах. Маскоўская „Праўда“ піша, што стан здароўя Леніна безнадзейны. Фактычна ўжо цяпер ён ніякага ўдзелу ў справах ня бярэ. У зьвязку з пагражаючым станам здароўя Леніна, ўсе правадыры камуністаў, якія цяпер знаходзяцца ў Гэрманіі, выкліканы ў Маскву.

## На Далёкім Усходзе.

У Прыморскім абшары чырвоная армія была колькі разоў разбіта Атрады белых, атрымаўшы помач ад гэнэрала Вержбіцкага, перайшлі ў наступленьне на значнай частцы фронту.

## Новы хаўрус народаў.

Амэрыканская газэта „Chikago Tribune“, паведамляе, што ў амэрыканскім сэнаце выпрацаваны праэкт закону ў справе ўтварэньня хаўрусу народаў у складзе: Амэрыкі, Англіі, Францыі Італіі, Японіі і Расеі.

## Падарожа Скірмунта.

Польскі міністр заграніччных спраў п. Скірмунт паехаў у Парыж і Лёндын.

## Незалежная Аравія.

У Парыж прыехала дэлегацыя палестынскіх арабаў і ўручыла міністру заграніччных спраў мэморандум, у якім арабы просяць аб утварэньні незалежнай Арабскай рэспублікі.

## Вясеньняе наступленьне.

Маскоўская „Праўда“, паведамляе, што на вясну прыгатаўляецца новае наступленьне ўсіх контррэвалюцыйных груп, пачынаючы ад Врангеля і канчаючы Петлюраю. Абедзьве яны знаходзяцца ў паразуменьні між сабою і маюць у сваім распараджэньні 50 тысячную армію. У зьвязку з гэтым склікаНы быў кангрэс парлямэнтарыяў у Вене. Акцыю маюць падтрымаць Польшча, Румынія і Францыя.

## Канцэнтрацыя бальшавіцкіх войск на польскай граніцы.

Паводля атрыманых у Вільні вестак, бальшавікі перакінулі на польскую граніцу адну дывізію конніцы і дзьве дывізіі пяхоты з-пад Волгі. У пагранічнай паласе заўважана павялічэньне лічбы самалётаў і браневікоў.

## Саветы ўзбройваюцца.

У Софіі перахоплена радыотэлеграма ваеннага камісарыяту ў Маскве, вымагаючая ад міліцыі па ўсей Расеі аддаць 3-х лінейныя вінтоўк для ўзброеньня новых фармуемых ваенных часьцей

Саветы прыказалі астанавіць далейшае звальненьне з арміі спэцыялістаў і студэнтаў.

## Паўстаньня ў Расеі.

У Варонежскай губ, зьявіліся новыя атрады паўстанцаў нейкага Фоміна, якія разьбілі высланыя проці іх атрады чырвонай арміі.

# Рожныя весткі.

## Голад у Расеі.

У Балашове, Саратаўскай губ. пад уражэньнем жудасных сцэн голаду застрэліўся адзін з членаў ангельскай місіі помачы галадуюым Фэрлін.

Лік выпадкаў галоднай сьмерці ў Мікалаеўшчыне павялічываецца. З браку прадуктаў зьменшана дапамога галадуючым. Ратунковая камісія асноўвае ў Крыму санатсрыю для дзяцей, якія захварелі з голаду.

## Бэла Кун звар'яцеў.

Быўшы вэнгерскі дыктатар і член маскоўскага ўраду Бэла Кун звар'яцеў і памешчаны ў бальніцу.

## Зьезд гэрманскіх манархістаў.

„Berliner Zeitung" паведамляе, што адчыніўся зьезд манархістаў; пры ўдзеле, у характары гасьцей, прадстаўнікоў заграмічных манархічных партый.

## Арышты ў Петраградзе.

Чрэзвычайка зноў арыштавала 82 сацыялістаў, якіх абвінавачваюць у арганізацыі антысавецкай змовы.

## Украінскія дэманстрацыі ў Нью-Йорку проці Польшчы.

Украінкія часопісі: „Вперед" (у Львові) і „Прикарпатская Русь" (у Амэрыцы) — паведамляюць аб вялікіх дэманстрацыях украінцаў у Нью-Йорку проці Польшчы.

„Вперед" ад 22 сакавіка г. г. года піша:

Дня 22 лютага Нью Йорская „Ліга амэрыканскіх грамадзян і вэтэранаў украінскай нацыянальнасьці зрабілі тры дэманастрацыі і адно маніфэстацыйнае веча (мітынг) для пратэсту проці рэжыму ў Усходняй Галіччыне.

Дэмонстранты разьбіліся на дзьве групы і пашлі пад французкае і польскае консульствы.

Украінцы ўставіліся радамі і хацелі спаліць польскі сьцяг з польскім арлом, але амэрыканская міліцыя вырвала з іх рук сьцяг. На гэтае зьбегліся тыя ўкраінцы, якія служаць у амэрыканскай міліцыі і выдалі польскі сьцяг украінцам, якія аблілі аго бэнзінаю і спалілі.

Пасьля гэтага дэманстранты зьнялі шапкі і адсьпявалі украінскі і амэрыканскі гімны.

Па поўдні адбылося вялікае маніфэстацыйнае веча пры вялікім удзеле украінцаў і амэрыканцаў, якія прыйшлі для інфармацыі.

Амэрыканская прэса шырока распісвае пра гэтыя дэманстрацыі, падаючы пры гэтым гісторыю украінскага жыцьця ў Галіччыне за апошнія тры гады.

## Язэп Пілсудзкі—насьледнік мільёнаў.

„Gaz. Warsz." паведамляе, што у Амэрыцы памер нейкі Більлевіч, які пакінуў насьледзтва ў шмат мільёнаў доляраў, у значнай часьці прыпадаючае на долю Начальніка Польскае Дзяржавы Язэпа Пілсудзкага, крэўнага Більлевіча па матцы.

## Доля рэпатрыянтаў.

Нядаўна прыбыў у Польшчу транспарт рэпатрыянтаў, які быў у дарозе 90 дзён. Каб гэтую дарогу бежанцы йшлі пяхотаю, то прыйшлі-б на 17 дзён раней. З Казані выехало 1948 чалавек, да граніцы даехала 649, а рэшта—1299 чалавек памерлі ў дарозе ад голаду і хваробаў. У ліку прыехаўшых ёсьць 96 чалавек цяжка хворых, 43 лёгка і 16 заразных.

---

# Чаму няма соцыялізму у Злучаных Штатах Пауночнай Амэрыкі?

(Глядзі №4).

У самой будове амэрыканскага грамадзянства нельга знайсьці нічога, што не зьяўлялася-б капіталістычным. Нідзе не спатыкаюцца там перажыткі дакапіталістычных клясаў. Няма там фэодальнае арыстократыі, якую замяняюць магнаты капіталу. Эпоха, прадбачаная Марксам, калі ён пісаў свой „Капітал" настала цяпер у Злучаных Штатах. Няма ў Амэрыцы старога тыпу фэодальнага сялянства і майстраў. Замест іх дужыя фэрмэры і вельмі мала дробна-капіталістычных гаспадароў у гандлі і індустрыі. Абедзьве гэтыя клясы праняты моцна капіталістычным духам. Працэнт людзей, занятых гандлем і прамысловасьцю, моцна расьце, а занятых земляробствам — часамі моцна падае. Амэрыканскія Злучаныя Штаты—гэта край вялікіх гарадоў. Пятая часьць усяго амэрыканскага насяленьня жыве ў вялікіх местах. А самі гарады ў Амэрыцы скаліся зусім ня так як у Эўропе, дзе яны арганічна выраслі з вялікіх вёсак. Квадратныя, як скрыначкі, амэрыканскія гарады пабудаваны з матэматычнай акуратнасьцю.

Процілежнасьць паміж багацьцем і беднатой вялізарная ў Амэрыцы. Аблічана, што ў 1890 г. з 60 мільярдаў даляраў усяго прыватнага капіталу—33 мільярды (54,8 пр.) былі ў руках 125,000 сем'яў, што складала толькі адзін працэнт усіх сем'яў, у той час, як 6 з чвэрцю мільёваў сем'яў ня мелі ніякае ўласнасьці. Найвялікшае багацьце ў руках адных і нячуваная бедната сярод другіх — характарная рыса разьдзелу маемасьці паміж амэрыканскім грамадзянствам. Кожны дзесяты нябошчык хаваецца ў Нью-Іорку на могілках для бедных, як жабрак.

Амэрыка жыве разьвітым капіталізмам, а праз гэта й душа кожнага амэрыканца пабудавана так, што ўсё ён мерае меркаю грошаў. Пачуцьцё прыгожасьці (эстэтыка) моцна аслаблена ў амэрыканца, вялікі мастацкі твор і карабель якога-небудзь грашавіка міліярдэра роўна ацэньваюцца ў Амэрыцы на лік даляраў. Вядомы вялікі норвэскі літэратар Кнут Гамсун у сваіх, праўда, даволі тэндэнцыйных успамінах аб Амэрыцы зазначае, што прыгожая поэзія амэрыканцаў зводзіцца да вер-

шаў, якімі друкуюцца ў вялікшых газэтах абвесткі аб новых модах і г. д. Ацэньваючы чалавека, амэрыканцы перш за ўсё бяруць пад увагу яго багацьце, яго даход.

Зусім ясна, што пры концэнтрацыі багацьця ў руках нязначнай меншасьці амэрыканскага насяленьня, ў руках буржуазіі, вялізная большасьць насяленьня—амэрыканскі пролетарыят—пры ўсіх палітычных свабодах пазбаўлены магчымасьці карыстаюцца і ўсею палітычнаю машынаю і нязьмерным „нацыянальным“ капіталам пры клясовай барацьбе. У той час, як пролетарыят зьяўляецца большасьцю, як рабочыя ў некалькі можа дзесяткаў разоў перавышаюць лікам буржуазную клясу, лік галасоў за работніцкага кандыдата ў прэзыдэнты ледзь дасягае 2—3 працэнтаў усяго ліку галасоў. І амэрыканскі рабочы стаіць як-бы здалёк ад соцыялізму. Ен, як і кожны амэрыканец, праняты вераю ў высокую місію свайго краю ў веліч яго. Ен стаіць за свой зорны штандар, яго настрой — патрыятычны. Амэрыканскі рабочы не настроены процi капіталістычнае сыстэмы гаспадаркі, як такой. Профэсыянальны рабочы рух борацца за вечнае палепшаньне палажэньня рабочых, але рух гэты далёкі ад якой-нібудзь рэвалюцыйнасьці. Павадыры профэсыянальных саюзаў спрачаюцца з капіталістамі, калі рэч ідзе аб варунках працы, але яны разам з тым гатовы стаць побач з усякім лібэральна - буржуазным кірункам, які ім дакляруе падтрыманьне ў барацьбе. Амэрыканскаму рабочаму не хапае тае клясова-соцыялістычнае сьвядомасьці, якую мы можам бачым сярод вялізнай большасьці нямецкіх арганізованых рабочых. Якому-нібудзь быўшаму газэтчыку, як напрыклад Карнэджы, пашанцавала стаць мільярдэрам і прыклад гэты ў некатарых пролетарскіх душах западае моцнаю надзеяй, што й яны не пазбаўлены магчымасьці дайсьці да вышэйшага амэрыканскага шчасьця быць багатымі. Спрытнымі спосабамі капіталісты Амэрыкі вельмі часта ўмеюць паставіць рабочых у гэткае налажэньне, што тыя пачынаюць разумець свае і гаспадара інтарэсы, як нешта моцна зьвязанае ў адно агульнае цэлае, клясавая сьвядомасьць рабочых тады ня толькі што прытупляецца, а навет як-бы зьнікае саўсім. Да ўсягэ гэтага палітычная машына Злучаных Штатаў пры ўсёй іх дэмакратычнасьці знаходзіцца фактычна ўруках капіталу, якому служаць спэцыяльныя профэсыяналы-палітыкі, што аплачваюцца дзьвюма вялікімі партыямі: рэспубліканскаю й дэмократычнаю, розьніца паміж якімі для кожнага эўрапэйца застаецца саўсім няяснаю. Розьніца паміж панючымі дзьвюма амэрыканскімі партыямі хіба толькі й хаваецца ў назовах іх ды ў выбарнай іх тактыцы. Эўрапэйскага разуменьня партыйнасьці абсалютна нельга прылажыць да партыяў амэрыканскіх.

Аб гэтых партыях проф. Зомбарт гаворыць гэткае: «Дзеля звычайнага культурнага эўропэйца амэрыканскія партыі прадстаўляюць простую загадку. Ужо самыя назовы! Я жыва памятаю той час, калі я ў першы раз пачаў цікавіцца палітыкаю: як трудна было мне рашыць, якую з дзьвёх вялікіх партыяў я павінен палічыць за лепшую! Апрача іх назоваў, ня ведаў я аб іх нічога болей. А назовы падабаліся мне і ў тае і ў гэтае. У той час, як у кожным іншым краі я ўсе-ж такі знаходзіў хоць адну партую, што насіла назову „крайняе левае“, або „радыкальнае“, „паступовае“ ці навет „вольнадумчае народнае партыі“, тут я стаяў паміж дзьвюма назовамі амэрыканскіх партыяў, як Бурыданаў асёл паміж дзьвюма вязкамі сена“..

Далей названы вучоны называе афіцыяльныя назовы сказаных амэрыканскіх партыяў проста б е з с э н с о ў н ы м і. Бо і праўда-ж: дэмократычная партыя ў дэмократычнай (ня толькі па назове) дзяржаве, — рэспубліканская партыя ў гэткай грунтоўнай, як Злучаныя Штаты, рэспубліцы! Тут трэба быць амэрыканцам, каб лёгка разумець і розьніцу між партыямі і іх унутраную сутнасьць яшчэ болей таго; ў зусім аналёгічных выпадках пры выбарах вельмі часта бывае, што адна й тая самая з амэрыканскіх партыяў (дэмокр. ці рэспубліканская) ў адным штаце галасуе так, а ў другім інача́й. Проста, як відаць дзеля таго толькі, каб „падставіць нагу“ сваёй працўўніцы. Фактам застаецца тое, што дэмократычная й рэспубліканская партыі манапалізавалі ў сваіх руках усю перадвыбарную работу, трымаючы на свой кошт дзеля гэтага цэлую грамаду спэцыяльных „дзеячоў“, якім хлеб дае палітыка. Усякія спробы „трэйціх“ партыяў рабіць сваю самастайную палітыку заўсёды не вытрымліваюць конкурэнцыі з „рэспубліканцамі“ і „дэмократамі“ і вольнае, шпаркае разьвіцьцё рабочае соцыялістычнае партыі рашуча тамуецца гэтымі манапалістамі амэрыканскае палітыкі. Ня маючы прынцыпіяльнага расхаджэньня, пануючыя амэрыканскія партыі, зьяўляюцца цяпер нічым іншым, як арганізацыямі дзеля супольнае працы над раздачаю пасадаў. А калі прыняць пад увагу, што ў некаторых з штатаў усе „вураднікі“ ад школьнага дырэктара аж да прэзыдэнта в ы б і р а ю ц ц а, а не назначаюцца, дык будзе ясна, што работы для дзьвёх партыяў, зманапалізаваўшых палітыку, аж надта даволі Аднак цікава, што строгая партыйная дысцыпліна падчас выбараў не пераходзіць за парог парлямэнту і, ўласна кажучы, ў В а ш ы н г т о н с к і м К о н г р э с е н я м а н і я к і х п а р т ы я ў. Тут кожны асобны пасол прымае тое ці іншае рашэньне паводлуг уласнага пагляду на данае пытаньне, праз гэта ўсе галоўныя рашэньні выносяцца камісіямі, зводзячы агульныя паседжаньні (пленум) на ноль.

Як гэта ўсё дзіўным павінна здавацца для кожнага эўропэйца! Дарэмна мы стараліся-б шукаць якой-нібудзь клясавай афарбоўкі ў „рэспубліканцаў“ і „дэмократаў“ Амэрыкі.

Павадыры рабочых вельмі часта, каб быць выбранымі на дзяржаўныя пасады, ідуць на павадзе ў панучых партыяў, ці йначай кажучы з-пад самага носа соцыялістычных партыяў вырываюцца іх гэнэралы і лік рабочых галасоў пры выбарах у Амэрыцы дае гэтнія скачкі, якіх зусім ня ведае Эўропа.

Палітычнае палажэньне амэрыканскага рабочага такое, што правы яго нічым ня розьняцца ад правоў кожнага грамадзяніна з іншае соцыяльнае клясы — самы бяднейшы пролетары мае учасьце ў дзяржаўным сувэрэнытэце, ў патрыятычным духу кожны выхоўваецца з школьніцкіх гадоў і на „конституцыю“ глядзіць, як на нешта сьвятое, што не падлягае чалавечай крытыцы. На

дзяржаўных амэрыканскіх пасадах стаяць людзі, выбраныя народам, які заўсёды можа іх і... прагнаць. Фармальнае роўнапраўнае палітычнае палажэньне амэрыканскага рабочага бяз гарантыі яго людзкага матар'яльнага існаваньня яшчэ нічога ня значыла-б у сэнсе адхіляньня яго ад соцыялістычных ідэяў. І наскольні зьведана ўжо эканамічнае палажэньне амэрыканскага пролетарыяту, можна сьмела наперад заявіць: яно ня горшае за палажэньне напр. нямецкага рабочага калі толькі ня лепшае яшчэ.

(Працяг будзе).

**К. Незалежны.**

# У пустой царкве.

Ахв. Ал. К. Гурло.

Набела сьцен ад пылу пацямнела,
Саткаў ніты павук на столі ў вышыне...
Рад абразоў забытых на сьцяне
Над аўтаром пустым і анямелым...

Зламаны крыж над царскімі дзьвярмі
І перад ім пахілены ліхтар...
На цэмэнту натоп астаўлены людзьмі,
Ды молат з рэйкаю, што кінуў панамар.

Калісьці тутака чароўны чуўся сьпеў, —
Уваскросшы Бог-Хрыстос з над аўтара глядзеў,
І дым з кадзідла віўся сіняваты...

У малілве не адна схілялась галава,
Шчасьлівымі былі і ўбогі і ўдава
І роўнымі усе: і бедны і багаты.

**Хведар Тартак.**

# ШЧОРСАУСКІЯ АБРАЗКІ.

Хто з беларусоў ня чуў аб Шчорсах? Аб прыгожых шчорсаўскіх дзяўчатах, прыбраных у свае пекныя нацыянальныя вопраткі? Аб рослых і моцных, як дубы, шчорсаўскіх дзяцюках, з каванкамі ў руках (жалезнымі палкамі), якія не раз пушчаліся ў ход, калі сабраўшыся пад восень на вечарынках, выпіўшы лішнюю чарку гарэлкі, яны каванкамі гэтымі спынялі дзяцюкоў чужых вёсак, якія мелі няшчасьце залішне круціцца каля якой-небудзь любай іх сэрцу Марыські ці Ганулькі?

Хто ня чуў аб вялізарным маёнтку, графа Хрэбтовіча, маёнтку з багатай культурай зямлі, з гаспадаркай, якая была прыкладам ня толькі для нашых гаспадароў, але была вядома далёка і за межамі нашага краю.

Вайна зруйнавала маёнтак. У грузох ляжыць пекны калісь палац графа. Знішчана вядомая і ўсім знаная шчорскаўская бібліятэка ня дыміць бровар, на мейсцы сыраварні толькі астаткі голых сьценаў, будынкі ўсіх амаль фальваркаў знесены з твару зямлі, і культурнае калісь гаспадарства перастала існаваць. Толькі на палёх і сенажацях цягнуцца яшчэ ня зарытыя лініі акопаў, каторыя лепш ад слоў раскажуць аб тэй вялікай драме, якую пераджыў гэны нешчасьлівы кавалачак нашай бацькаўшчыны.

Вёскі Шчорсаў таксама няма. Вярнуўшыяся з Расеі уцекачы, як дзікія зьвяры, да апошніх яшчэ часаў змушаны былі гняздзіцца ў зямлянках. Гледзячы на ўсю гэную руіну неяк ня хочацца верыць, што калісь ня так яшчэ даўно там крыніцай біла жыцьцё, кіпела праца і ў мінуты адпачынку лілася вясёлая песьня хлопцаў і дзяўчат.

---

## Чорт наблутаў...

Быў ў маёнтку Шчорсах Петр Гадаўскі. Меў ён пасаду каморніка Маленькага росту,твар—белы, як папера, валасы рыжыя, з пераборам з боку, намазаныя нейкай памадай і гладка прылізаны; вусы ценькія, быццам мышыныя хвосьцікі, нос востры, вочы шэрыя, трошкі заплюшчаныя, як у чалавека, каторы глядзіць на сонца. Сам ценькі, худы, злаецца, абы вецер дмухнуў, дык і заваліцца. І каб ня віхор на самай макаўцы галавы, які, ня гледзячы на ўсё стараньне Гадаўскага, ня хоча ўпакорыцца ні памадзе, ні шчотцы, ні грэбню, і зьяўляецца нейкім дысанансам да ўсяго яго вобліку, можна было-бы сказаць, што з пагляду чалавек—як чалавек. Усё ў ім у парадку.

Але ў Гадаўскага ня ўсё было ў парадку.

Не ў парадку была вялізарная памяць яго, якая дазваляла яму слова ў слова паўтараць цэлыя дзясяткі страчіцаў даўно прачытанай кнігі, не ў парадку была і яго цікавасьць да тлумачэньня ўсялякіх зьяваў прыроды, на якія іншы раз ён сам ня мог знайсьці адказу, маючы малую адукацыю; не ў парадку была яго духоўная істота, каторая ніколі ні водным рухам творы ня выяўляла ўсяго таго, што творыцца ў глыбі яго душы.

А тамакі мусілі рабіцца цікаўныя рэчы, рэчы зусім неспадзяваныя, бо той чалавек, якога ніхто ніколі ня бачыў сьмяючымся, быў вялікі і вельмі спрытны жартаўнік. Слухаючы іншы раз расказы аб яго жартах, проста качаешся ад сьмеху.

Але я раскажу жарт якога сам быў сьведкай.

Пры Шчорсаўскім двары, як і пры кожным двары ў нас на Беларусі, быў свой пактар — клікалі яго Срулем.

Дзе ён жыў гэны Сруль, даль-Бог ня ведаю. Даволі таго, што ня было такой справы ў шчорсаўскай адміністрацыі, каб можна была зрабіць яе бяз Сруля. Сруль купляў і прадаваў кароў, Сруль прывозіў з Карэлічніва ніткі, голкі, адным словам. Сруль быў істотай, без якой ня мог жыць увесь Шчорсаўскі двор і калі якія-небудзь важныя справы затрымоўвалі Сруля і ён доўга не заглядаў да Шчорсаў, усе адчувалі адсутнасьць Сруля, дзівавалі што ён так доўга ня заглядае і з нецярпеньнем чакалі яго прыезду.

І ён прыежджаў у сваей каламажцы, запрэжанай нейкай худой старой клячай, ласкава адказываючы на прывітаньні, ўезджаў у пазадворак, прывязваў да плоту каня і, пагладжываючы сваю доўгую, сівую ўжо бараду, ішоў рабіць свае інтарэсы.

Вось гэтак пасьля доўгага нябыцьця Сруль нанонец прыехаў. Ня ведаю ўжо чаму, але неяк у той час народу ў двары было мала. Гарачая пара сенажаці паразганяла ўсю дворню па полю, і, калі Сруль уехаў у панадворак, на спатканьне яго выбягла толькі адна старая сабака, дажываючая на ласкавым хлебе свае нядоўгія годы. Сруль прывязаў каня і пайшоў.

Праз нейкі час, калі седзячы ў сваім пакоіку за работай, я падняў вочы ад кнігі і глянуў на двор, бачу: стаіць Гадаўскі і адпрагае Срулявy клячу. — Што за ліха, ня ўжо-ж гэткая прыязьнь завялася паміж імі?

Гадаўскі тымчасам адпрог каня, ўхапіўся рукамі за аглоблі,падцягнуў вазок,усунуў паміж дашкамі плоту адну аглоблю, пасьля другую, і зайшоўшы ззаду, пхнуў вазок так, што аглоблі больш як на палову свае даўжыні пасунуліся на той бок плоту — ў сад.

Скончыўшы з гэнай работай Гадаўскі з паважнай мінай узяў за узду каняі павёў.

Я нічога ня мог зразумець.

Праз некалькі часу, гляджу, вазок пачынае рухацца. За плотам я ўбачыў Гадаўскага, каторы ўзяўшыся рукамі за аглоблі цягнуў з усей моцы вазок. Побач з ім стаяла Срулява кляча.

Падцягнуўшы вазок Гадаўскі упрог зноў клячу, пагладзіў яе, пакляпаў па шыі і пайшоў.

Я выйшаў на двор, глянуў і пакаціўся са сьмеху.

Назет ведаючы, што усю гэную штуку зрабіў чалавек, калі глядзеў я на гэну каламашку і каня, аддзеленых паміж сабою плотам, зусім неяк і ў галаву не магло прысьці, што гэта работа чалавека, паўставала адно толькі пытаньне: якім гэта цудам конь, ды йшчэ запрэжаны ў каламашку, змог пераскачыць праз такі высокі плот?

Я вярнуўся да хаты і, прыглядаючыся праз вакно, чакаў, што будзе далей. Чакаць доўга ня прышлося:

Першая падняла трывогу Параска.

Вышаўшы з пякарні, яна толькі адбарабаніла, сыгнал на абед, ударачы палкай. аб кавалак бляхі прыбіты да двух слупкоў, і паскрабаўшы паясьніцу, быццам пасьля цяжкай работы, зьбіралася зноў вярнуцца ў пякарню, калі разам угледзела нязвычайну зьяву. Падбегла да каламашкі стала скамянеўшы з паідзіву. Пасьля перажагналася, раз, другі і з крыкам „А Божачка!“, як страла паляцела ў пякарню.

Хутка пад камандай Парасniі, як бомбы, выкаціліся з пякарні йшчэ дзьве бабы і дваровы казачок, хлопчык Хомка, з гоманам пранясліся яны па двару і сталі пры Срулявай каламашцы.

— Глядзіце, кумачкі, — пачала Параска. Толькі я адбарабаніла абед і хацела ісьці у пякарню, каб наліваць страву, калі глянула і ледзь не абамлела.

— У Імя Атца і Сына...— жагналіся бабы.— І як ён, гэта пераскочваў?

— Што ты кумачка брэшаш—пераскочыў,— казала Параска. — Калі ты бачыла, каб жывёла магла гэтак скікаць. Туткі нячысты напутаў.

— Праўду кажаш, — патакнула кумачка.— Няйначай нячыстага работа, — і зноў набожна пяражагналася.

Хомка вылупіўшы вочы таксама прыглядаўся нябываламу зьявішчу і, ўгледзеўшы нейкую паперыну на каламашцы, працягнуў руку, каб узяць яе; але Параска убачыла гэны рух Хомкі і хапіла яго за руку.

— Здурнеў ты Хомка, ці што? Туткі хто яго ведае, што робіцца, а ён руку суне. Вось лепш пабяжы, пакліч, Сруля.

Хомцы ня трэба было паўтараць другі раз. Перабіраючы босымі нагамі, ён птушкай паляцеў апавясьціць аб нябывалым у Шчорсах здарэньні Сруля і ўвесь двор.

—А вы кумачкі, чаго туткі топчыцеся—зьвярнула ўвагу Параска.—Пайдзеце паклічце народ,— а я тут застануся адна пасьцярагу.

Але не пасьпелі кумачкі адысьці і некалькі крокаў, калі прыбег спалоханы Хомкай Сруль.

—Ну, што такое?— пытаўся Сруль.

—Як, што такое? — адказалі хорам бабы, — Глядзі!

Сруль глянуў і замёр на мейсцы.

— Як-жа яна так?—дзіваваў Сруль. Я-ж яе прывязаў і пайшоў да пані Кашарэўскай, а яна... глядзі, што зрабілася.

— Што зрабілася? Вось і мы думаем, што гэта зрабілася.

— Каб конь, дый праз гэткі плот пераскочыў.

— Дый ішчэ ў запражцы.

— Дый каб конь, а то скура ды косьці,—засакаталі бабы.

— Ну, конь, як конь,—абразіўся Сруль,—бываюць і горшыя, але туткі ніякі конь ня пераскоча.

І Сруль развёў рукамі.

— Туткі няма чаго дзіваваць,—азвалася Параска,—справа ясная—без нячыстага туткі ня абышлося. Глядзі і аглоблі цэлыя і плот цэлы...

— Цьфу, цьфу, цьфу,—трэйчы сплюнуўшы азваўся Сруль:

— У вас усё нячысты...

— А то што?—азваліся хорам бабы.

— Знача кляча сама пераскочыла?

Ня ведама чым-бы кончылася спрэчка паміж бабамі і Срулем, каб на той час ня прыйшоў каваль.

— Чаго разскаталіся?—крыкнуў ён здалёку сваім моцным голасам?

— А вось паглядзі!..

Каваль, першы жартаўнік і пьяніца на ўсю ваколіцу, глянуўшы на небывалае дзіва, забыўся і языка, і раздзявіўшы рот замаўчаў на паўслове.

— Вось дык штука,—наканец азваўся ён.

— Яны кажуць: чорт папутаў...—прашаптаў Сруль.

— Чорт, ня чорт, але як ты цяпер дамоў паедзеш?

— Трэба будзе адбіць дошкі і выцягнуць.

— Што? адбіць дошкі,—азваўся за плячыма Сруля голас прывантовага пісара.—Я табе пакажу, платы псаваць!

— Дык як-жа будзе, пане Мазуркевіч?

— А мне што за дзела?.. Але як яе сюды загнала. Вось калі будзеш другі раз гэткія штукі выраблять, дык я цябе сабакамі выцкую,—накінуўся прывантовы пісар на Сруля.

— Пане Мазуркевіч, ці-ж я ведаю, як гэта зрабілася. Прыехаў, прывязаў да плоту, пайшоў да пані Кашарэўскай, ажно прыбягае Хомка: „Сруль, кажа, Сруль, глядзі, што з тваім канём зрабілася." Прыбягаю і вось—гляджу...

— Пане Мазуркевіч, пазвольце, калі ласка, разабраць плот.

— Што ты, Сруль, здурэў?

— Хіба мне рубель дасі і пану пісару тузін піва прывязеш, дык можна будзе вызваліць,— умяшаўся каваль.

Тым часам з усіх куткоў ціснуліся людзі і прыглядаліся не бываламу дзіву.

Параска з кумамі расказвала, як яны першыя ўбачылі гэнае дзіва, як адразу зразумелі, што без нячыстага тут справа ня абышлася, як ня ведама, што была-б з Хомкай, каб падняў паперку, што ляжыць на сподзе каламашкі.

Людзі слухалі, глядзелі, дзівавалі, разказываючы адзін аднаму тысячу здарэньняў, дзе чорт апутваў людзей, і баязліва паглядаючы на павозку, на каня, які стоячы за плотам апусьціўшы галаву і махаючы хвастом, хрумсаў сочную траву.

Тым часам каваль, які ня верыў ні ў чорта, ні ў Бога, і ня гледзячы на перасьцярогі Параскі і кумаў не мяшацца ў нячыстую справу, дабіў такі торгу са Срулем і за два злоты і паўбутэлькі гарэлкі згадзіўся вызваліць Срулеву павозку.

Ен ужо кінуўся за тапаром, каб разабраць плот, калі ўмяшаўся ў гэтую справу, сам дух нячысты.

— Чаго вы туткі шум паднялі,—азваўся з за плоту спакойны голас Гадаўскага.

Людзі адзін праз аднаго пачалі тлумачыць у чым справа. Параска навет, каб лепш яе пачуў пан Гадаўскі, ўзлезла на плот і ўжо з плоту пачала расказываць ўсю гісторыю.

— Дык ня ведаеце, як вызваліць каня?— азваўся зноў пан Гадаўскі і, кажучы гэта, пачаў распрагаць каня.

Людзі з пачатку ня маглі зразумець у чым тут справа, і чаму Гадаўскі адпрагае каня, і толькі тагды, калі вызваліўшы аглоблі з рамнёў, Гадаўскі спакойным голасам кінуў: „ну Сруль, цягні вазок", і дзесяць моцных рук, хапіўшы за вазок, выцягнулі аглоблі, неапісаны сьмех панесся па задворку. Адна толькі Параска перастаўшы быць гэроем дня, маўчала, закусіўшы губы, і нарэшце, сплюнуўшы са злосьці, пабегла ў пякарню.

Дзядзька Пранук.

## Беларускія народныя песьні.

* * *

Былі ў маткі тры сыны на раду.
Заказалі ўсім тром на вайну.
А большаму ўсё ня хочацца,
А сярэдняму ня прыходзіцца,
А меньшы сабіраецца..
Матка плача, заліваецца.
Не плач, не плач, мая матачка,
Тагды па мне ты, наплачышся,
Як са мною больш няўбачышся.

### Маладая малодачка.

Маладая малодачка
У цябе дома прыгодачка,—
Зваліласся сьвякроў з тыну
У жыжковую крапіву.
Ня жаль-жа мне сьвякровачкі
А жаль-жа мне крапівачкі,—
Сьвякроўка журлівая,
А крапіўка лянівая.

Пяюцца дзяучатамі у Вялікім Бару, Вялейскага пав.

### Прыпеўкі.

Я стаяла, стаяць буду
Ля шула, ля новага,
Я любіла, любіць буду
Янку чарнабровага.—

Я хадзіла каля рэчкі,
Ды шчыпала каласы,
Выбірала сабе хлопца
Каб русыя валасы.

О, сыры наш ячмень,
Ды ня меліцца,
Нашы хлопцы пасівелі,
Ды ня жэняцца.—

Жыта мае ядраное
Сыпалася з меху.
Жонку-ж маю маладую
Толькі бярэ ўцеха.

На капусьце дробны цьвет
Марозу баіцца,
Праз чужыя языкі
Кінулі любіцца.

Пяюцца салянамі у Вялікім Бару Краснасельскай воласьці.

Падаў Сьцяпан Рудзь.

## ВЕСТКІ з КРАЮ.

### Аб балючай школьнай справе.

Мястэчка ЛЕБЕДЗЕВА, Вялейскага пав.

Да палавіны студня г. г. у мяст. Лебедзеве істнавала беларуская урадовая пачатковая школа ў якую пасылалі вучыцца сваіх дзяцей без мала ўсе жыхары мястэчка...

Са школы гэнай як бацькі дзяцей так і дзеці ўсе былі вельмі рады і заўсёды ў школьных справах адклікаліся з найвялікшым пачуцьцём. Сталыя людзі, як і вучні, з вялікаю прыемнасьцю чыталі свае родныя беларускія кніжкі, атрымлівалі беларускія газэты, з вялікай шчырасьцю цешучыся, што мы беларусы, нягоршыя людзей, маем сваіх пісьменнікаў, працаваўшых для роднай культуры.

Вельмі часта прыходзілася чытаць у газэтах і чуць ад рожных людзей, што вось там не пазваляюць вучыцца пабеларуску, там не даюць адчы-

няць беларускай школкі, а там зачынілі яе саўсім. Тутэйшым людзям гэтае ўсё ня верылася. Думалі што гэта няпраўда ці можа там у чым-небудзь вінаваты самі людзі. Можа мала хінуцца да сваей школкі, ці што іншае?

Але вось, у студзені г. г. усе вучыцялі нашае беларускай школкі, па загаду школьнай Улады, паехалі на курсы да Кракова. Мы і нашы дзеці засталіся без вучыцялёў. Значыцца, школкі і дзеці застаюцца без навукі. Думаецца: якжа гэтыя дзеці будуць жыць цёмнымі невукамі, бо дзіцячыя школьныя годы хутка праходзяць і яны выгадоўваюцца дзікімі, бязлюднымі.

Дзеці плачуць і просяць, як кольвек старацца, каб у нас была заўсягды свая беларуская школка.

Жыхары мястэчка пісалі некалькі заяваў як пану Вялейскаму Школьнаму Інспэктару, так і ў другія школьныя і іншыя установы аб тым, каб абавязкова тут існавала заўсягды беларуская школка. Усюды пасылалі з заявамі сваіх паўнамочных людзей. Заявы былі пасьведчаны ў гміне. Просьбы аб адчыненьні ў Лебедзеве беларускай школкі ішлі ня толькі ад імя жыхароў, але і солтысаў мястэчка Лебедзева і сяброў Лебедзеўскае Гміннае Рады і др.

Усюды паўнамочнікаў ад людзей з гэнымі заявамі прымалі з прыхільнасьцю, кажучы што яшчэ хваце пары і усё будзе зроблена як хочуць жыхары у самым хуткім часе...

Школьны Інспэктар у сваім пісьме на імя войта Лебедзеўскае гміны ад 9 лютага г. г., пад № 241 паведаміў сяброў гміннай рады і солтыса мястэчка Лебедзева, што ён у справе далейшага існаваньня у м. Лебедзеве беларускай школы ніякіх перашкод ня робіць. Гэта было абвешчана праз гміну каля 20 лютага г. г. і заяўлена, што калі ёсьць, адпаведны па кваліфікацыі вучыцель, то можна адчыняць беларускую школку, але яшчэ абавязкова трэба узяць ад п. Інспэктара спецыяльнае пасьвядчаньне аб тым, што п. школьны Інспэктар дазваляе адчыніць беларускую школку, бо другія хвармальнасьці людзьмі выпаўнены.

1 сакавіка г. г. былі нам ндыраваны да пана Інспэктара ў Вялейку адпаведныя людзі дзеля атрыманьня належных дакумэнтаў на адчыненьне школкі, але што-ж выйшла? Заместа таго, каб даць пазваленьне на працяг навучаньня дзяцей у былўшай ужо школцы, п. Інспэктар сказаў, што урадовыя школкі можна было адчыняць толькі да 15 лютага г. г., а цяпер ужо мала часу засталося дзецям вучыцца, а дзеля гэтага не варта плаціць пэнсіі вучыцялём. На пытаньне аб адчыненьні прыватнай школкі, сказаў, што можна папрабаваць зьвярнуцца да пана Куратара ў Ліду, дык можа і будзе пазволена.

Мы тут прыкмечаем, што п. Інспэктар робіцца надта ашчодным і баіцца, каб не выдаць лішняй маркі на прасьвету. Добры інспэктар!..

Недазваленьне адчыніць школку дзеля таго, што ўжо мінула 15 лютага—ня ёсьць аснаваньне, бо ня мы вінаваты ў гэтым. Мы пачалі хлапатаць аб сваей школцы яшчэ да верасьня. Тады, як было ня позна нас толькі пацешалі як малых дзяцей абаранкамі, а нарэшсьце выходзе як у гэтай прыказцы: „абецанка-цацанка, а дурному радасьць".

Ці-ж нашы дзеці і людзі на гэта заслужываюць?

Трэба адзначыць, што мы, будучы ў прыхрантовай паласе вынясьлі ўвесь цяжар вайны; многа нашых коней і павозак прапала як у бальшавіцкіх абозах, так і ў польскіх. Усялякую скаціну, хураж і прадукты дастаўлялі і цяпер на запатрэбаваньне дастаўляем для польскіх войск і установаў безадгаворна, ў самыя кароткія срокі і ў найвялікшых лічбах за самую малую цану, а то і дарма. Усе павіннасьці і стойкі адбываем акуратна. Рожныя налогі выплачываем таксама. З акцызных налогаў на ўсялякія рэчы патрабленьня, як напрыклад сярнікі, соль, газа і др. скарб мае ад нас таксама немалыя даходы. Ад вайсковай павіннасьці нашых дзяцей не ганьбуюць.

Мы асьмеліваемся прыпомніць, што калі прыходзіцца Ураду лічыцца моцна з гэтымі расходамі, якія прыдаецца нясьці на нашу школку, дык трэба лічыцца і з тымі даходамі, якія ішлі і ідуць ад нас, а так-жа і з тэй пользай у культурным развіцьці, якую дасьць школка.

Многа ёсьць довадаў, што мы ня горш людзей і павінна быць у нас свая школка, але што тут гаварыць, калі не ў ашчэднасьці справа і ня дзеля ашчэднасьці ня маемо цяпер беларускай школкі, а ёсьць тут усім нам знаная і прыкрая закавыка,—гэта „polonizacja kresów".

Дык вось, дарагія браты, якое жыцьцё наша, —змушаюць нас чурацца свайго роднаг! Але няхай. Гэтым толькі ўмацняецца свая сьвядомасьць і любоў да усяго роднага. Наша мова, наша развіцьцё ніколі не загіне пакуль будзем жыць мы і нашы патомкі!

Настане час, калі і з намі будуць гаварыць і лічыцца як „Роўныя з роўнымі і вольныя з вольнымі"...

**Той самы.**

# Лісты з Палесься.

Кінуты воляю лёсу ў нявядомы мне да гэтага куток Беларусі, я стаў прыглядацца да роднага мне па духу народу.

Сярод супольнай працы павядзеш бывала такую гутарку:

— Хто ты, Язэп?

— Як хто? Вядома—паляк...

— Хто табе гэта казаў?—пытаю.

— Ксёндз у касьцеле казаў яшчэ майму бацьку, што вера яго польская, а цяпер кажа ўсім нам, што мы палякі. Гэта-ж самае вучыцель што дня тлумачыць нашым дзецям.

— А ці ўмееш ты гаварыць папольску?—пытаю я.

— Не, ня ўмею, адказвае ён.

— Ну а якою-ж мовай ты гаворыш?

— Як якою? Пэўне-ж не паангліцкаму, а так, як гамоняць усе ў нашай вёсцы.

— А ці ня чуў ты, як гэтая мова называецца?—зноў пытаю яго.

— Чаму ня чуў. Анадысь амарыканец прыехаў з Вільні і прывёз газэту, акурат там напісана, як мы гамонім, — казаў, што гэта беларуская газэта.

— Які-ж ты паляк, калі твой дзед, бацька і ты сам гамоніш пабеларуску?—кажу я.

— Яно то так... Але паслухай, што я табе раскажу. Прышлося яшчэ мне ў прошлым годзе, так неяк перад Калядамі, паехаць у Баранавічы— заказаў дзесятнік, каб усе атрымалі гэныя легітымацыі, што з карткамі. Прыйшоў гэта я туды, дзе іх пішуць. У першай каморцы нейкая худзенькая пані і пытае гэта ў мяне: „Czego ty żądasz?“ Я гэта не разабраў добра дый ляпнуў: „Не, жонку пакінуў дома“. Яна засьмяялася дый зноў пытае: „Чаго ты хочаш?“ Тутака я зразумеў адразу і сказаў, што прышоў па легітымацыю. Яна ўзяла ў мяне пасьведчаньне з гміны і пачала пісаць прашэньне да пана, што дае гэтыя пашпарты. Потым зьвярнулася зноў да мяне дый пытае: „На якой мове ты гаворыш?“—„На такой, як, пані, чуе“, — адказаў я. «Па мужычу»—кажа яна і пачала нешта запісваць. Мне так стала брыдка—я быў у паліце і галёшах — што я аглянуўся кругом. Але, дзякуй Богу, ня было нікога знаёмага.

Адтрымаў гэта я гэтую легітымацыю, прыехаў дамоў, даў сыну—ён у мяне ходзіць у школу—дый кажу: „Чытай, што тутка напісана!“ (Узяло мяне за жывое!). Ен вычытаў, які ў мяне нос, вочы, твар, а нарэшце дачытаўся, што гаманю я пабеларуску. Вось, гэта, цікава: кажа: „памужыцку“, а піша: „пабеларуску“.

Але, бывай здароў, паночку! Трэба даганяць Семку. Заўтра стрэнемся я табе раскажу яшчэ цікавейшую рэч...

**З. Л.**

## Вёска **Максімаўка**, Радашкаўскай воласьці Вялейскага павету.

Гэта вёска увесь час да вайны мела расейскаю школу, ў якой працаваў і адчыніў яе Ракміхайлоўскі, цяпер вядомы школьны дзеяч і пэдагог. Пакуль ён быў вучыцелем, добра было і Максімаўцам, бо вучыцель быў дома, жадных дапамог яму ня трэба было, а навет сам рабіў дапамогі сялянам.

Яшчэ восяньню 1921 г. максімаўцы хацелі ужо, пасьля усяго ваеннага перарыву, ізноў адчыніць школу. Прыслалі ім з Вільні беларускага вучыцеля Ю. Л. Прысланы вучыцель зрабіў сходку, каб выясьніць усе справы школы, купіць кніг, дапамогу вучыцелю і г. д., але сяляне максімаўцы захацелі каб вучыцель на свой рахунак кніг купіў, каб выхлапатаў грошы ад казны на хату, якую яны дадуць пад школу і адмовіліся даць хоць якую дапамогу вучыцялю. А трэба заўважыць, што школа ў іх прыватная. Ю Л., пасядзеўшы ў Максімаўцэ галодны трое сутак чуць павалок ногі ізноў ў Вільню.

Пасьля таго прыслалі вучыцельку Буднічанку, якая змагла прыехаць з Вільні, а назад ужо ня было грошай (як вядома, гэткае ўжо становішча беларуск. вучыцялёў) Гэта бедная дзяўчына перанесла тут цэлае гора: галодная, бяз грошай, хадзіла па установах, каб адчыніць школу, але таксама нічога не дабілася, дзякуючы цемнаце максімаўскіх сялян

Цяпер Максімаўцы агледзяліся, просяць, шукаюць беларускага вучыцеля, але да іх ніхто ня хоча ісьці.

Пранук Парушэнец.

# Беларускае жыцьце.

## Эвангельле па-беларуску.

Віленскі япіскап Елеўферы на Вялікдзень прачытае эвангельле пабеларуску.

## Новая часопісь.

Студэнты-беларусы Віленскага Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага, якія арганізаваліся ў «Гурток Студэнтаў Беларусаў» выдалі цяпер першы нумар свайго месячніка пад назоваю „Наш Шлях“. Цана нумару 150 марак.

## Новая кніжка.

Друкуецца новая кніжка „Сурдут і Сярмяга“ Гутоўскага ў перакладзе Антона Абрамовіча.

## З заграгічнага беларускага студэнцкага жыцьця.

МАСКВА. Атрымоўваем з Масквы надта добрыя весткі. Студэнты арганізованы там моцна. Лучацца яны ў дзьвюх арганізацыях: „Асоцыяцыя Студэнтаў Беларусаў“ і „Гурток Студэнтаў Беларусаў“.—Мэты маюц яны культурна-прасьветныя. Заслугоўваюць яны вялікага спагадау бо, праца іх вядзецца ў вельмі цяжкіх абставінах.

ПРАГА. Як ведама, ў апошнія годы шмат студэнтаў беларусаў, ня могучы вучыцца ў сябе на Бацькаўшчыне, выежджае заграніцу. Шмат маем сяброў у Празе. Там яны таксама заргані зованыя ў „Гурток беларускіх студэнтаў ім. Францішка Скарын ў Празе“.

ВАРШАВА і ЛЮБЛІН. З гэтых навуковых цэнтраў атрымалі мы дабрыя весткі: І там знаходзіцца шмат беларусаў, і там яны пачалі рупіцца дзеля свайго аб'еднаньня. Пажадаем ім у працы ўсяго найлепшага.

„Наш Шлях“.

## Сьветкаваньне 4-тых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

(1918—25.III—1922)

25-га сакавіка г. г. ў Вільні адбылося сьветкаваньне 4-тых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

А 10 гадзіне раніцы адпраўлена набажэнства ў касьцёле сьвятога Мікалая кс. Ад. Станкевічам.

Адначасна ў царкве Сьвята-Тройцкага Манастыра адбылося архіярэйскае набажэнства пры ўдзеле 6 сьвяшчэньнікаў.

А 10 з пал. гадзіне адпраўлена ўрачыстае набажэнства ў харальнай сінагозе глаўным рабінам Рубінштэйнам.

А 2-ой гадзіне па паўдні ў салі Беларускай Гімназіі адбылося ўрачыстае паседжаньне Школьнае Рады. Вучнёўскі хор прапеяў беларускі гімн (Не пагаснуць зоркі ў небе). Сэкрэтар Школьнае Рады п. Смоліч прачытаў рэфэрат: „Чаму мы сьвяткуем сёньняшні дзень“. Вучні гімназіі і пачатковых школ прадэклямавалі вершы народных паэтаў, а хор прапеяў нацыянальныя песьні.

А 6-ай гадзіне вечара было ўрачыстае паседжаньне Нацыянальнага Камітэту, на якім былі прысутнымі прадстаўнікі ад палякоў, жыдоў і літоўцаў. У гарачых прамовах гэтыя прадстаўнікі віталі беларусаў са сьвятам і шчыра выказвалі надзеі на скорае прыбліжэньне таго часу, калі сапраўды беларускі народ будзе вольным і незалежным.

Пасьля паседжаньня адбылася агульная вячэра.

# Цікавыя гісторыі.

## Папяровы дом.

У Беластоку недаўна здарыўся такі выпадак. Жыхар аднаго дому наняў рабочага каб той вычысьціў балькон на трэцім паверсе. Калі, аднак, рабочы вышаў на балькон і пачаў яго ачышчаць, балькон зламаўся і рабочы разам з перагніўшымі дошкамі зваліўся на балькон 2-га паверху, які так сама зламаўся на балькон 1-га паверху. Але і гэты балькон ня быў лепшы, і наш бедны рабочы і з гэтага балькону зваліўся ў . . . парожную бочку ад селядцоў.

Дзякуючы шчасьліваму выпадку, рабочы ніякай шкоды сабе не зрабіў.

## З каталікоў у жыды.

Да Беластоцкай Жыдоўскай Гміны зьвярнуўся недаўна адзін чыноўнік, каталіцкай рэлігі, і заявіў, што ён хоча прыняць жыдоўскую веру і прасіў зрабіць усе фармальнасьці. Аднак Урад Жыдоўскай Гміны адмовіўся выпаўніць гэта жаданьне, бо на моцы, абязваючых яшчэ да гэтага часу расейскіх законаў, пад пагрозаю кары, нельга пераходзіць з хрысьціанскай веры ў жыдоўскую.

„Nowy Dzien. Biał."



## Тыднёвы календарык.

| Праваслаўны Чысла | Дні | Праваслаўны САКАВІК | Каталіцкі Чысла | Каталіцкі КРАСАВІК | Сонца Усход г. м. | Сонца Заход г. м. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 19 | Сб. | Хрысанфа | 1 | Тадоры м. | 5 36 | 6 34 |
| 20 | Н. | 5 Вял. п. П, Марыі Эг. | 2 | 5 посту. Праншішка | 5 34 | 6 36 |
| 21 | Пн. | Якава еп. | 3 | Рышарда | 5 32 | 6 38 |
| 22 | А. | Васіля | 4 | Ізыдара | 5 30 | 6 40 |
| 23 | Ср. | Нікона і яго 200вуч. | 5 | Вінцэнтага | 5 26 | 6 42 |
| 24 | Ч. | Захара | 6 | Вільгельма Оп. | 5 23 | 6 43 |
| 25 | Пц. | Благавешчаньне | 7 | Эпіфана | 5 21 | 6 44 |

## Біржа

**31 красавіка 1922 г.**

| | |
|---|---|
| Ням. маркі . . . . . | 1250 — 1220 |
| Доляры . . . . . | 3895 — 3855 |
| 10 руб золатам . . . . | 19325 —19000 |



Рэдактар-выдавец М. Тулоўскі. Друкарня «ДРУК», Субач 2.